


# Весткі й Паведамленьні

**інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"**

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 5(675)**
**Травень 2022 г.**


# Чарнобыльскі мітынг на Таймс-Скўэр

У аўторак, 26 красавіка 2022 году, на Таймс-Скўэр у Нью-Ёрку адбыўся мітынг з нагоды 36-й гадавіны аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі, у выніку якой каля чвэрці тэрыторыі Беларусі было забруджана радыёактыўнымі рэчывамі. Імпрэза была арганізаваная супольна Нью-Ёркскім аддзелам Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА), Беларуска-Амэрыканскім Згуртаваньнем "Пагоня", Беларускай Асьветніцкай Лігай Амэрыкі (BELA) і суполкаю "RAZOM for Ukraine".

Напачатку імпрэзы сп-ня Аксана Пятрашка, старшыня аддзелу БАЗА, прывітала прысутных па-беларуску і па-ангельску і адзначыла, што сёньня мы ўшаноўваем памяць людзей, што памерлі й захварэлі пасьля найвялікшай тэхнагеннай катастрофы ў гісторыі чалавецтва.

Затым яна падкрэсьліла, што падзеі 36-гадовай даўніны былі часткаю трагедыі па вынішчэньні беларускага й украінскага народаў, якая працягваецца і дасюль. Пасьля Чарнобылю многія сем'і спазналі высяленьне, хваробы, сьмерць сваіх блізкіх. Беларусь стала найбольш закранутай Чарнобылем краінай, і дасюль яна яшчэ не пераадолела наступстваў катастрофы. І вось цяпер дыктатар Пуцін пагражае сьвету ядзернай вайной, а ягоныя акупацыйныя войскі ва Ўкраіне бамбардуюць украінскія атамныя станцыі, ствараючы небясьпеку новых Чарнобыляў. Ядзерны шантаж можа мець трагічныя наступствы для ўсяго чалавецтва. Расейская агрэсія мусіць быць спыненая, і расейскія войскі мусяць пакінуць тэрыторыю Ўкраіны й Беларусі.

Затым выступіў старшыня Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня"сп. Віталь Зайка. Ён пачаў сваю прамову з канстатацыі таго, што цяперашняя гадавіна Чарнобылю ад-

***працяг на бачыне 2***

# МЭМАРАНДУМ

Мы, прадстаўнікі беларускай дыяспары ў ЗША, прызнаючы наяўнасьць акупацыйнага рэжыму на тэрыторыі Беларусі й ўсьведамляючы адказнасьць за катастрафічныя наступствы расейскай ваеннай агрэсыі ва Ўкраіне, зьвяртаемся да суродзічаў, якія засталіся на радзіме.

Прымаючы да ўвагі той факт, што на сёньняшні момант Расейская Фэдэрацыя дэ юрэ й дэ факта зьяўляецца дзяржавай-тэрарыстам і нясе пагрозу ня толькі сваім бліжэйшым суседзям, але й ўсяму цывілізаванаму сьвету, мы абсалютна перакананыя ў тым, што беларускія грамадзяне не павінныя заставацца ў баку ад таго, што адбываецца, і мусяць любымі дасяжнымі сродкамі дамагацца наступнага:

- тэрміновага й неадкладнага вываду расейскіх войскаў з тэрыторыі Беларусі;
- скасаваньня дамовы аб калектыўнай бясьпецы (АДКБ), якая дазваляе Расеі выкарыстоўваць тэрыторыю Беларусі для ваеннай агрэсіі;
- ануляваньня незаконнай дамовы аб стварэньні так званай Саюзнай дзяржавы з Расейскай Фэдэрацыяй;
- выйсьця з Мытнага зьвязу й іншых хаўрусаў, створаных нелегітымнай уладай з мэтай паступовага паглынаньня нашай краіны ўсходнім суседам;
- увядзеньня пашпартнага кантролю на мяжы з РФ.

Беларусь павінна вярнуцца ў Эўропу, а не заставацца ў ганебных хаўрусах з дзяржавай-агрэсарам! Гэта будзе магчымым пасьля вырашэньня першачарговай задачы – ліквідацыі антыбеларускага па сваёй сутнасьці рэжыму Лукашэнкі. І за гэта неабходна штодзённа змагацца.

Жыве Беларусь!

*2 красавіка 2022 году*

***Ад імя Беларускага Нацыянальнага Сакратарыяту (БНС) – Зянон Пазьняк;***
***Ад імя Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "ПАГОНЯ" – Віталь Зайка;***
***Ад імя Беларускай Асьветніцкай Лігі Амэрыкі (BELA) – Ірына Хадарэнка;***
***Ад імя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня "BAZA" – Натальля Федарэнка;***
***Ад імя Беларускага Інстытута Амэрыкі (BIA) – Алена Рыдзеўская;***
***Ад імя Беларускай Фундацыі Крэчэўскага – Галіна Тумаш-Павэлс.***

# Чарнобыльскі мітынг на Таймс-Скўэр

працяг з бачыны 1

розьніваецца да папярэдніх. Сёлета Чарнобыль ізноў зьявіўся ў загалоўках навінаў. Але гэтым разам навіны пра Чарнобыль тычыліся не атамнай катастрофы, але катастрофы расейскага ўварваньня, і захопу пляцоўкі атамнай станцыі. Гэта, у сваю чаргу, стала вынікам маральнай катастрофы кіраўнікоў Захаду, што рабілі выгляд, быццам з Пуцінам "можна мець справу", закрываць вочы на ягоны рэваншызм і сваволю ў дачыненьні да суседзяў. Гэтыя кіраўнікі лічылі, што Ўкраіна ня выстаіць, яны давалі ўкраінцам усяго толькі пару дзён каб "ганарова пратрымацца". І толькі цяпер яны, уражаныя мужнасьцю й посьпехамі ўкраінцаў, сталі даваць дапамогу ня лёгкімі "партызанскімі" ўзбраеньнямі, але таксама салíднымі сродкамі вядзеньня рэальных, сучасных вайсковых дзеяньняў.

Таму нашая задача цяпер – трэба ня даць палітыкам схібіць яшчэ раз, трэба змусіць іх стаць на шлях поўнай і безумоўнай падтрымкі Ўкраіны, якая цяпер змагаецца ня толькі за сябе. Яна змагаецца за ўвесь Вольны Сьвет, за ўсіх нас. І таму мы ня можам дазволіць пуцінскаму рэжыму ўжываць нуклеарную рэторыку, спрабуючы кампэнсаваць паразы на полі бою. Але гэта залежыць ад рашучасьці, мужнасьці й аб'яднанасьці ўсіх людзей добрай волі, іхных краінаў і ўрадаў. Вайну ва Ўкраіне трэба спыніць, гэта ў нашых сілах, і гэта наш абавязак.

Вяртаючыся да тэмы аварыі Чарнобылю, прамоўца адзначыў, што на забруджаных абшарах Беларусі дасюль жыве каля мільёну чалавек, і яны застаюцца фактычна сам-насам з Чарнобыльскай бядой. Беларусам і ўкраінцам трэба аб'яднацца супраць яе, гэтаксама як і супраць іншай бяды – расейскай акупацыі, і Вольны Сьвет мусіць дапамагчы ў нашым змаганьні.

Са словам да прысутных выступіла сп-ня Ірына Хадарэнка, прэзыдэнтка Беларускай Асьветніцкай Лігі Амэрыкі. Яна адзначыла, што амаль кожная сям'я ў Беларусі была закранутая Чарнобыльскай трагедыяй. І сёньня Беларусь і Ўкраіна паяднаныя ня толькі Чарнобыльскай бядой, але і змаганьнем супраць расейскай акупацыі, і яны мусяць разам адбіваць абедзьве навалы. У Беларусі, дзякуючы расейскаму ціску, была пабудаваная атамная станцыя ў Астраўцы, значная частка выдзеленых сродкаў была скарыстаная на ўласнае ўзбагачэньне людзей, датычных да праекту, не пайшло на будаўніцтва, і цяпер на гэтай станцыі здараюцца паломкі, і яна стала дадатковай крыніцай рызыкі й небясьпекі для беларусаў. Гэтая станцыя не адпавядае сусьветным стандартам бясьпекі, зацягвае Беларусь яшчэ болей у залежнасьць ад Расеі і мусіць быць зачыненая.

Цяпер расейцы таксама шантажуюць увесь сьвет нападамі на атамныя станцыі ва Ўкраіне, ужо былі бамбаваньні Запароскай і Ровенскай станцыяў, і гэта безумоўна ўяўляе страшэнную пагрозу для насельнікаў у першую чаргу Ўкраіны, але таксама і для ўсяго сьвету. Сьвет павінен спыніць маньяка Пуціна, які ўяўляе пагрозу для будучыні ўсяго чалавецтва.

Наступным выступіў сп. Артур Згураў, прадстаўнік суполкі "RAZOM for Ukraine", ён прывітаў прысутных і падзякаваў за падтрымку Ўкраіны. Прамоўца падкрэсьліў, што Беларусь і Ўкраіна паяднаныя адной бядой. І цяпер ядзерная пагроза падвышаецца ў выніку злачыннай дзейнасьці расей-

заканчэньне на бачыне 3




Здымак Ірыны Хадарэнка

# Дэмакратычная “прывабнасьць” расейскай агентуры



Расейская акупацыя Беларусі і агрэсія супраць Украіны адчыніла супярэчнасьці – паказала прагніласьць ваеннай арганізацыі расейскай арміі і выявіла разбуральную сілу гібрыднай вайны ў дэзынфармацыі і прапагандзе.

Зьнішчальна спрацавала Расея па Беларусі. За дваццаць гадоў марыянэтачнага рэжыму Лукашэнкі былі разбураныя асновы нацыянальнай дзяржавы і культуры, што дало магчымасьць Маскве (сумесна зь немцамі) разбурыць беларускую нацыянальную апазыцыю (Народны Фронт), стварыць у 2020 годзе прамаскоўскую апазыцыю рэжыму і вывезьці яе за мяжу дзеля прамаскоўскай дзейнасьці ў эміграцыі пад відам змаганьня з Лукашэнкам.

Мэтодыка спрацавала разбуральна для эміграцыі, паспрыяла расейскай акупацыі Беларусі. Адпаведна, ажывілася прарасейская агентура ў беларускіх эміграцыйных СМІ, кантраляваных праз замежныя рэсурсы. Сродкі масавай інфармацыі сталі банальна ўключаць расейшчыну ў свой зьмест і кантэкст (не даючы інфармацыі па нацыянальнай палітыцы і нацыянальнаму Адраджэньню).

Найбольш рэзкі паварот зрабіла тэлебачаньне Белсат. Русіфікацыя Белсату ў Польшчы і ўскосная падтрымка пуцінскіх ваенных бандытаў зьбянтэжыла шмат якіх беларусаў. Такога не чакалі. Але такое здарылася і працягваецца.

Характэрнай передачай па-руску стала інтэрвію Белсата ў маці расейскага бандыта-кантрактніка, якая маркоціцца, што яе вырадак трапіў у палон да ўкраінцаў, а рускамірныя так званыя “журналісты” Белсату сумнымі галасамі выказваюць ёй спачуваньне і падтрымку. Фантастычна – але факт.

Увогуле, парадаксальна, што лукашысцкія рускамірскія бандзюгі адчуваюць сябе ў дэмакратычнай Польшчы вольна, адкрыта і нахабна. Нядаўна на мітынгу ў Варшаве, які арганізоўвала групоўка Латушкі-Ціханоўскай, некаторыя беларусы, якія крытычна ўспрымаюць асобу Ціханоўскай, пачалі выкрыкваць “ганьба”. Да іх рынулася група замаскаваных тыпажоў у чорным убраньні (так званая “ахова” групнікаў) і пачала штурхаць людзей, выбіваць тэлефоны з рук, пагражаць і хапаць рукамі.

Такое магло здарыцца ў лукашысцкім Менску, але ня ў вольнай Варшаве. Тым ня менш, такое адбылося. Невядомыя нападнікі ў чорным – гэта, магчыма, нават замаскаваныя амонаўцы зь Менску. Ніхто не высьвятляе паходжаньня нападнікаў з асяродзьдзя прамаскоўскай групоўкі.

Такое, відаць, будзе працягвацца, але да пары. Цяпер жа трэба ўсё зафіксаваць і задакумэнтаваць.Прыдзе час – іх знойдуць нават на дне марскім. Ніхто не схаваецца, ніхто не ўцячэ, хто шкодзіў беларусам у цяжкі для Бацькаўшчыны час.

*2 красавік 2022 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

# Расейскі “мордар” павінен быць разбураны

Чаго толькі не прыдумвала канторская цемра супраць беларусаў. Асабліва выгаляліся ў прафанацыі Пагоні і Нацыянальнага Сьцяга. Тут былі і "бусьлікі", і "зубрыкі", і "пахне чабор", і нават "джынсавыя порткі" замест Беларускага сьцяга (калі хто памятае гэбоўска-мілінкевічаўскую кампанію "рэвалюцыя-джынс"). Тады яшчэ жывы Аляксандар Літвіненка, калі ўбачыў тую джынсавую "анучу", і, ведаючы як рэжым лукашыстаў зьневажае нацыянальны Бел-Чырвона-Белы Сьцяг, назваў беларусаў "нацией болванов", якая топча сваё. Крыўдна, магчыма, каму-небудзь чуць, але падстаўная апазыцыя балваноў сапраўды была.

Цяпер маскавіты (зьвяа ўзьнікла адразу ў некалькіх канторскіх месцах) прыдумалі нібыта новы рускі "антываенны сьцяг" – белая, сіняя і белая палосы – як альтэрнатыва ("вываратка") сьцягу Беларускай нацыі. Маўляў, яны выдалілі з рускага сьцяга "колер крыві" (гэтак і кажуць). Такое вось лапцюжнае ўяўленьне пра геральдыку. (Чырвоны колер, дарэчы, у гэральдычнай сымболіцы – гэта колер высокароднага гонару і высокага духа, сымбаль сьмеласьці і вялікадушнасьці, гэта каралеўскі колер).

Хутка мы ўбачым цікавыя мэтамарфозы з гэтай сіняй маніпуляцыяй (нават Латушку зь Ціханоўскай і зь "невераятнымі" ўбачым – для іх і прыдумана). Але схавацца ня ўдасца. Цёмны расейскі "мордар" павінен быць разбураны. Ня ўдасца ўцячы ні пад які "сьцяг", і нішто не ўратуе іх, бо каяцца яны ня здольныя (толькі шукаюць выйсьця).

Не павінна быць больш ніякой Арды, ні пад якім "сьцягам". Мімікрыя ня пройдзе, не перакуляцца ваўкалакі. Зьнішчыць расейскі "мордар" – гэта экзыстэнцыяльная задача, якая стаіць найперш перад беларусамі і ўкраінцамі (інакш нас ня будзе), але, фактычна, гэта задача – перад усім сьветлым чалавецтвам, бо цёмны расейскі "мордар" выступіў супраць чалавецтва.

*31 сакавік 2022 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

## Чарнобыльскі мітынг на Таймс-Скўэр

***заканчэньне з бачыны 2***

скага кіраўніцтва, якое аддае загады на бамбаваньне і захоп атамных станцыяў ва Украіне. Сьвет ня можа маўчаць, трэба патрабаваць спыненьня вайны і дзейнічаць у гэтым кірунку. Кожны чалавек мусіць падвысіць свой голас, бо гэта тычыцца асабіста кожнага чалавека на плянэце.

Напрыканцы іпрэзы прагучалі Чарнобыльскі звон і песьня “Чарнобыль” у запісе ў выкананьні гурта “Сябры”, прысутныя трымалі ў руках сымбалічныя сьвечкі.

Акцыя прыцягнула ўвагу шматлікіх мінакоў, хто былі прысутныя ў той час на Таймс-Скўэр на Мангэтане, многія зь іх падыходзілі даведацца пра нагоду для імпрэзы і выказвалі сваю падтрымку і салідарнасьць зь мітынгоўцамі.

***Віталь ЗАЙКА***




# Шаноўнае спадарства!

Нагадваем, што **31 траўня 2022 году** скончыцца тэрмін дасылкі твораў для друку ў сёлетнім выпуску

**альманаха беларускіх пісьменьнікаў замежжа**

## "БЕЛАРУС".

Надрукаваць свае творы ў альманаху могуць усе, хто піша па-беларуску і жыве па-за межамі Беларусі. Калі Вы спрабуеце свае сілы ў прыгожым пісьменстве, то не прапусьціце магчымасьць пазнаёміцца са сваёю творчасьцю шырэйшае грамадзтва праз друк у нашым альманаху.

Падрабязьней пра ўмовы друку ў штогадовіку можаце пазнаёміцца на сайце **e-krama.com**

На гэтым жа сайце Вы можаце замовіць папярэднія нумары гэтага літаратурна-мастацкага выданьня, а таксама зрабіць ахвяраваньне на выданьне наступнага нумару.

Імёны ахвярадаўцаў будуць пададзеныя ва ўступным артыкуле, і ўсе яны атрымаюць новы нумар аднымі з найпершых адразу пасьля ягонага выхаду ў сьвет восеньню бягучага году. Аплату на сайце можна зрабіць праз сыстэму *Paypal*, крэдытнаю ці банкаўскаю карткаю. Дасылка па ўсяму сьвету.






Замовы і ахвяраваньні таксама можна дасылаць поштаю на адрас:

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

Чэкі ці грашовыя пераказы выпісвайце на імя выдаўца **Marat Klakotski**.

З пытаньнямі зьвяртайцеся на емэйл адрас ***zamova@e-krama.com***














**Уплаты ў Згуртаваньне**
**Складкі й ахвяраваньні:**

| | |
|---|---|
| В. Балашчэнка | 60 |
| І. Кулеш | 60 |
| В. Лапыш | 60 |
| В. Сьпеталюн | 60 |

**Шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне "Пагоня" шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***
**Чэкі выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня "Пагоня"**
***Viktar Yedzinovich.***

# Абвестка

Сходы Згуртаваньня "Пагоня", якія звычайна адбываліся ў другую суботу кожнага месяца, часова (да адмены ўладамі г. Нью-Ёрку забароны на правядзеньне масавых мерапрыемстваў) праходзіць ня будуць.

--------------------

*Аб імпрэзах, ладжаных "Пагоняй", можна даведацца наведаўшы старонку арганізацыі ў Фэйсбуку:* ***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Вескі й Паведамленьні*:**

| | |
|---|---|
| Я. Бойка | 30 |
| В. Лапыш | 30 |
| Я. Кацярыніч | 20 |

**Усім шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка "Пагоні" **Viktar Yedzinovich**.*

*Электронны варыянт бюлетэня можна знайсьці ў інтэрнэце на сайце **e-krama.com***